Кошт паштовай перасылкі аплачаны агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 21. Вільня, Субота, 19-га красавіка 1924 г. Год I.

# Сяляне і работнікі, рыхтуйцеся да сьвяткаваньня 1-га мая.

## Да усіх дапішчыкау і чытачоу газэты „Голас Беларуса“.

### У справе сьвяткаваньня першага мая.

З прычыны таго, што ўсё сьвядомае беларускае сялянства і, асабліва, моладзь будзе сьвяткаваць дзень салідарнасьці працоўных—першае мая, зьвяртаемся да ўсіх нашых дапішчыкаў і чытачоў з просьбаю прыслаць карэспандэнцыі аб гэтым сьвяткаваньні. У карэспандэнцыях павінна быць зазначана:

1) Колькі сялян і моладзі прымала ўдзел у сьвяткаваньні;

2) Ці былі маніфэстацыі і сходы.

3) Ці гаварыліся прамовы і што гаварылася.

4) Ці былі чырвоныя сьцягі і што было напісана на іх.

5) Ці былі сьцягі бяз надпісаў.

6) Калі паліцыя разагнала, або недапусьціла да маніфэстацыі—то ці рабіліся сходкі (масоўкі) тайна. У апошнім выпадку месца сходкі ня пісаць.

7) Калі паліцыя каго арыштавала ў дзень першага, мая паведаміць аб гэтым у карэспандэнцыі; абавязкова зазначыць імя і прозьвіша арыштаваных.

8) Апрача ўсяго вышэй названага ў карэспадэнцыі трэба адзначыць усё цікавае і характэрнае, што было па гарадох, мястэчках і вёсках у дзень першага мая.

**Рэдакцыя.**

## Камісія „проці меншасьцяу“.

Адначасна з выступленьнем маршалка сэнату, п. Тромпшчыньскага, проці трактату аб правох нацыянальных меншасьцяў, які Польшча падпісала ў Вэрсалі, але дагэтуль і ня думала выпаўняць, — урад п. Грабскага прыступіў да разважаньня палажэньня нацыянальных меншасьцяў у польскай рэспубліцы.

Мы ні на адзін мамэнт не сумляваемся, што пачынаньні п. Грабскага ў кірунку разьвязаньня справы меншасьцяў у Польшчы зьяўляюцца—скажам славамі „Robotnika“ — „*прыкрай камэдыяй*“. Камэдыя гэтая разыгрываецца перад заграніцай, каб пасьля сказаць усяму сьвету: бачыце, мы самі ўжо заапекаваліся сваімі меншасьцямі; дык апека Лігі Нацыяў і трактат аб абароне меншасьцяў—ужо непатрэбны!

Што гэта іменна так, відаць ужо з першых крокаў п. Грабскага і скліканай ім нарады палітычнага камітэту міністраў. Вынікам гэтае нарады ў першы чарод зьяўляецца пастанова аб „узмацаваньні“ польскіх уплываў на „крэсах“ дарогай... *рэарганізацыі паліцыі паводле вайсковага ўзору і аддачы войска да ўжытку адміністрацыі*. Інакш кажучы, першым крокам да „разьвязаньня“ пытаньня аб меншасьцях зьяўляецца ўзмацаваньне „зялезнага кулака“, які будзе „апекавацца“ меншасьцямі пры дапамозе аружнае сілы....

Ужо аднаго гэтага хваце, каб наперад сказаць, што ўрад аб запраўднай разьвязцы пытаньня аб нацыянальных меншасьцях у Польшчы ў духу трактату аб меншасьцях зусім ня думае; бо-ж не рыхтуюць аб'ядненых сіл паліцыі і войска проці таго, каму манядца зрабіць нешта *добрае*! Гэта падцьвярджае і самы склад „камісіі экспэртаў“, якая мае быць склікана пры міністэрстве ўнутраных спраў (—ізноў-жа як-бы пры паліцыі!),—і галасы польскае прэсы. Аб складзе камісіі сацыялістычны „Robotnik“ піша:

„Называюць з поўнай пэўнасьцяй два прозьвішчы: таварыша Недзялковскага (П. П. С.) і—п. Станіслава Грабскага! П. Станіслаў Грабскі—гэта адзін з найвялікшых шкоднікаў у нацыянальных справах Рэчыпаспалітай. Гэта прапаведнік „траўленьня“ нацыянальных меншасьцяў польскім арганізмам. У Рызе, у часе міравых перагавораў з бальшавікамі, п. Ст. Грабскі энэргічна перакорываў польскую дэлегацыю, што ня трэба дамагацца Менска, бо тады беларусы ў Рэчыпаспалітай мелі-бы свой культурны цэнтр, дык іх трудней было-бы „пэратравіць“. Украінцаў у Польшчы п. Ст. Грабскі наагул не прызнаець! Калі быў міністрам асьветы, уславіўся зачыненьнем літоўскае гімназіі ў Сьвянцянах, што было аднэй з найбольш бязмысных праяваў нацыяналістычнае палітыкі. І вось гэткі доктрынэр нацыяналізму мае быць „райчым“ ураду ў справах нацыянальных меншасьцяў. А побач з ім прост проціленжныя рады мае даваць тав. Недзялковскі“. Але найбольш характэрным зьяўляецца тое, што ў камісіі ня будзе прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў, аб якіх будуць тамака радзіць. „Гэта нязвычайна яркая нястача, — і ўжо яна адна пазбаўляе гэную камісію ўсялякае вагі. Камісія экспэртаў, у якой ня было-бы прадстаўнікоў украінцаў і беларусаў, а затое быў-бы п. Станіслаў Грабскі, — была-бы проста прыкрай камэдыяй“.

Наагул, орган польскіх сацыялістаў абсалютна ня верыць у якія-колечы істотныя вынікі пачынаньняў ураду. З выступленьня лейб-органу эндэкаў „Gaz. Warsz.“ таксама відаць, што „дарэмны ўсякія спадзяваньні“ на перамену к лепшаму палажэньня меншасьцяў, а ў тым ліку і беларусаў, у межах польскае рэспублікі. Заяву „Robotnika“ аб патрэбе ўчасьця ў камісіі экспэртаў такжа прадстаўнікоў меншасьцяў „Gaz. Warsz.“ называе „процідзяржаўным вымыслам“ („pomysł antypaństwowy“) і кажа аб камісіі і яе заданьнях:

„Камісія экспэртаў павінна разважаць аб тым, якія трэба завясьці ўстановы і выдаць законы і загады для крэсаў нацыянальных меншасьцяў *дзеля карысьці і разьвіцьця Польшчы*. Дзеля гэтага прадстаўнікі меншасьцяў ў камісіі „*цяпер ня маюць яшчэ аб чым казаць*, — цяпер радзіць могуць толькі тыя, для каго ўкаханьне прадстаўляе Польшча, і *хто карысьць польскага народу стаўляе вышэй за ўсё*“.

Мы падчыркнулі найбольш характэрныя заявы органу тэй партыі, да якой належыць п. Ст. Грабскі. З іх відаць, што апошні, як „экспэрт“, будзе праводзіць думкі *не аб свабодзе для меншасьцяў, а аб „свабодзе“ Польшчы ад меншасьцяў*! І зусім натуральна, што пры такім палітычным курсе прыходзіцца перш за ўсё прыгатаваць „зялезны кулак“ для „крэсаў“....

Прывёўшы галасы польскіх сацыялістаў і эндэкаў, якія падцьвярджаюць у поўнай меры нашае недаверые да ўрадовых пачынаньняў, мы ня можам абмінуць голасу „нашых“ „краёвых“ кансэрватыстаў з газэты „Słowo“.—„Słowo“ абурана бязтактнасьцяй эндэцкага выступленьня: „бо-ж нельга выяўляць свайго пагляду на беларусаў і украінцаў, як на вялікоднага індыка, і публічна адмаўляць гэтаму індыку права высказаць сваё пажаданьне, з якім сосам ён мае быць сьпечаны“.—„Słowo“ мае сваю праграму *проці меншасьцяў*: яно радзіць ураду перш за ўсё дайсьці да ўгоды з жыдоўскай і нямецкай буржуазіяй, а тады ўжо ўзяцца за такія сялянскія народы, як беларусы і украінцы. Ды мімаходам кідае некалькі слоў, якія прымушаюць нас крытычна глядзяць ня толькі на п. Ст. Грабскага, як на сябра камісіі проці-нацыянальных экспэртаў, але і на... „тав.“ Недзялковскага! А іменна: „Słowo“ адзначае, што польскія сацыялісты таксама *імкнуцца да разьбіцьця адзінага „проціпольскага фронту меншасьцяў“*, стараючыся на соймавым грунце разваліць нацыянальныя клюбы....

Як-бы там ні было, мы нічога не спадзяемся ад новае ігры польскага ўраду на грунце пытаньня аб нацыянальных меншасьцях. Не спадзяемся нічога і ад польскіх сацыялістаў тыпу п. Недзялковскага, якога ўрад заклікае ў камісію экспэртаў выключна з увагі на Англію і яе работніцкі ўрад. Мы верым, што міравая разьвязка беларускага пытаньня, а таксама і другіх нацыянальных пытаньняў у межах польскае рэспублікі магчыма будзе толькі тады, калі пачнуць беспасярэдна гаварыць між сабой працоўныя масы меншасьцяў з працоўнымі масамі польскага народу. У тых-жа камісіях і камітэтах, якія ладзіць пануючая ў Польшчы буржуазія, беларусам запраўды „няма аб чым гаварыць!“

## Ад Беларускага Т-ва помачы пацярпеушым ад вайны.

### Надыходзіць вясеньняе Сьвята-Вялікдзень.

Рады сьвяту—хто мае дзе і з кім (сярод радні, сярод мілай кампаніі) правясьці гэнае сьвята і павесяліцца, хто мае што сытнейшага і смачнейшага спажыць, хто мае ў што новае прыадзецца.

А ёсьць такія, што з трывогай спаглядаюць на блізкае Сьвята, бо як сіроты і бедныя-бедныя— ня маюць ад каго з радні спадзявацца мілай перамены ў іх страшэнна ўбогім, адзінокім, нудным жыцьці. Такіх ёсьць у беларускім прытулку аж замнога.

Хоць чым-небудзь і хоць некалькім з іх трэба дапамагчы, зрабіць ім сьвята мілейшым, каб, дачакаўшы сьвята, дачакацца спакою душы, што частачку грамадзкага абавязку выканалі,—часьцю сіроцкай і бядацкай долі аблегчылі.

Каб сьвята—Вялікдзень міла было бедным сіротам успомніць і правадзіць, Камітэт заклікае далучыцца да агульнай складчыны на бедных сірот-вучняў.

**Камітэт.**

Пасьля арышту пасла С. Барана, Стараста выклікаў новага Старшыню Т-ва п. Канцэвіча і кажа: „пасол Баран нічога ня мае ўжо да прытулку, дык аб'яднайцеся з гэтымі панамі—Міткевічам і др. — з тым, што ўжо Старшынёй будзе з гэтай групы.

Да паразуменьня не дайшло... бо што за сэнс Т-ву шукаць аб'яднаньня з падобнымі тыпамі, якія замест дапамагчы дзецям, гатовы на ўсё.

Калі Т-ва не згадзілася на гэтакую камбінацыю, дык паны Міткевіч, Шурпа, Лячыцкі, Савіцкі і іншыя прывялі паліцыю, адабралі ключы ад кіраўніцы, паадрывалі замкі ў сталох у пакоі Сэкрэтарыяту Бел. Пас. Клубу, і абвесьцілі сябе „гаспадарамі" ў прытулку.

Праз некалькі месяцаў іхняга гаспадараваньня, паслалі яны ў паліцыю паперу, што ў прытулку не хапае многа рэчаў. Сьледзтва ў гэтай справе знаходзіцца ўжо ў пракурора.

Напісалі нават артыкул у газэту аб тым, што прытулак надта запушчаны... Здавалася, што пры новых гаспадарох пэўна будзе лепш. І дапраўды, пакуль былі старыя запасы, дык было добра, але з кожным месяцам пачыналі горш карміць і нарэшце некалькі дзён таму назад—прытулак зачынены і запячатаны. Новыя гаспадары так накармілі дзяцей, што ад холаду, голаду, бруду,—пачаўся сярод дзяцей сыпны тыфус, і ўсіх дзяцей адвязьлі да шпіталю. І вось, цяпер Міткевіч лае Лячыцкага, а Лячыцкі лае Міткевіча. І гэта ўсё робіцца на вачох Старосты, які ўсімі срэдствамі падтрымлівае гэтую брудную кампанію.

Цяпер Міткевіч арганізаваў „Новае Т-ва Дабрачыннае"—у складзе: Міткевіч, Шурпа, Мінючыц і нейкі манах, прывезены ўладыкам—Кашын.

Адным словам, адна частка „дзяльцоў" спаскудзілася,—выходзіць другая з рэзэрву.

Пасьля Беластоцкага працэсу і арышту пасла Барана, усё, што было лепшае ў беларускім жыцьці, пахавалася ў свае норы... Затое гэная цёмная кампанія гарцуе па бясплоднаму полю.

Гэтая кампанія і далей можа „абіраць" сялян, як гэта рабіла і раней: брала грошы ад сялян на коні, плугі, адпраўку да Расеі і г. д. — прапівала іх, а сяляне заставаліся ашуканымі.

І гэтае ўсё рабілася ў двух кроках ад гмаху п. Старосты...

Так памаленьку жыве нашае Горадно...

N.

# Весткі з вёскі.

**М-ка Вязынь**, Вялейскага пав.

Мусіць, нідзе няма такога гміннага самаўраду, як у нас. Праўда, што з тых „радных", якіх мы выбіралі, даўно ўжо няма ніводнага, а засядаюць там тыя, каго выбіралі нам усе, толькі ня мы самі. Але і ім ня раз кідаецца ў вочы тое, што робіць наш гмінны пісар п. Дубовік, бежанец з Меншчыны. Ен у нас такую сілу забраў, што калі чаго захоча, дык так і мусіць быць. Напрыклад, абкладае сялян гмінным падаткам у такой суме, што аж наш пан староста зьдзівіўся. Жыхары нашых вёсак з гвалтам шукалі ратунку ў п. старосты, і, праўда, той ткі прымусіў крыху паменшыць падаткі.

Пісар наш надта любіць, каб яго частавалі, але-ж бяднейшы гэтага яму зрабіць ня мог, дык, ведама, частавалі яго ўжо багацейшыя, а за гэта ён пры раскладцы падатку абкладаў маемасьці багацейшых ніжэй, чымся бяднейшых. Ня дзіва, што, калі пісар можа так самаўладна раскладаць падаткі, дык ён ніколі не пакрыўдзіць сябе. Некаторыя сябры рады кажуць, што ён выпісвае пэнсыю і сабе, і жонцы, і дзецям, хоць тыя з Меншчыны ніколі й не ўцякалі і ня жылі тут.

Як расходуюцца гмінныя грошы, ніхто з нас ня ведае, ня ведаюць на'т і сябры Рады, бо ніякага кантролю над расходаваньнем грошаў няма. Пісар, войт—поўныя гаспадары над грашыма і ўсім багацьцем гміны. Калі швагру пісара патрэбны дошкі (жыве ён за 21 вярсту ў Краснасельскай гміне), дык ён адразу едзе ў нашу гміну, кладзе на воз бярвеньне, купленае на апал, вязе на тартак, рэжа—і вось табе й дошкі! Застаецца толькі адвязьці дамоў, але-ж за гэтым дзела ня стала, бо на дапамогу ёсьць стойка.

Калісьці ў гміне былі мягкія меблі, даволі пекныя і дарагія. У часе вайны, каб яны ня кідаліся кожнаму ў вочы, іх вынесьлі і злажылі на сталяваньні ў гміне. Праўда, ад вільгаці яны крыху расклеіліся, але-ж наш пісар пан Дубовік даў рады: склеіў, абчысьціў ад пылу і няма ведама куды дзеў. Адны кажуць, адвёз швагру ў Краснае, другія да Скабея ў Гумнічы, дзе ён часта госьціць па цэлым тыдням.

Скардзіцца на пана пісара няма куды — затым ён у нас і робіць, што хоча. Як моцна ён у нас сядзіць, відаць хаця-б з таго, што зьмяніў памоцніка войта, назначанага на гэтую пасаду самім п. старостай, а калі памоцнік войта стаў гаварыць, і на'т пісаць, аб службовых надужыцьцях пана Дубовіка, дык ні ў Гміннай Радзе, ні ў Павятовым Сойміку не зьвярнулі на гэтае ніякай увагі. Не дарма-ж пан Дубовік адкрыта кажа, што ніхто яго ня зьменіць да тых часоў, пакуль у Вялейскім Старостве на пасадзе рэфэрэнта samorządowego будзе пан Аўгустоўскі, з якім ён вельмі цесна зьвязаны на дзеяльнасьці іх у Маладэчне.

**С. Саха.**

### МУХА.

(Нясьвіжскі пав., *Клецкая гміна*).

У ночы з 6-га на 7-га сакавіка г. г. Муха з сваею дружынаю пабываў у маёнтку вядомага ўжо памёршага лекара вачэй пана Рымшы. Забраўшы ў арандатара 16 коней Муха спакойна паехаў.

### Непасільныя падаткі.

(*Мірская гміна*).

Сяляне некаторых вёсак ня могуць плаціць падаткаў у тэрмін, бо ня маюць чаго прадаць, асабліва ў тых вёсках, якія зруйнаваны вайной каля былых пазіцыяў.

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

### Сельска-гаспадарчы крэдыт.

**Абслугоўваньне Ўсходняй Беларусі.** Белсельбанк прыступіў да абслугоўваньня прылучаемых да БСРР часьцёў Гомельскай, Смаленскай і Віцебскай губэрняў.

Банк ужо выдаў 10.000 руб. Магулёскаму і 600 руб. Каліненскаму агэнцтвам на крэдытаваньне сялянства.

У Віцебску закончана праца па арганізацыі таварыства с.-г. крэдыту, якое часова будзе абслугоўваць усю Віцебскую губ.

**Аб летняй практыцы студэнцтва.** Пры Галоўпрафасьветы арганізавана камісіі па разьмяркаваньню студэнтаў на летнюю практыку ў 1924 г.

На першым паседжаньні камісіі пастаноўлена прыступіць да збору вестак аб тым, у якіх установах і якому ліку студэнтаў можа быць дадзена летняя практыка.

Праца па збору гэткіх вестках будзе праводзіцца Народным Камісарыятам Працы.

Камісія таксама лічыць патрэбным даць магчымасьць паехаць на практычныя працы ў РСФСР 25 студэнтам Менскага і 20 Горацкага с.-г. інстытутаў.

**Беларусізацыя аддзелу шляхавага будаўніцтва.** На адбыўшайся нядаўна чарговай нарадзе павятовых працаўнікоў шляхавага будаўніцтва Менскай Беларусі аднагалосна пастаноўлена ў тэрміновым парадку перавесьці ўсё тэхнічнае дзлаводзетва на беларускую мову.

Шляхавы Аддзел Беларусі мае на ўвазе, пасьля прыняцьця шляхаў у далучаных частках рэспублікі, запрапанаваць і тамака перайсьці тэрмінова ўва ўсіх тэхнічных справах на беларускую мову.

## З Віцебшчыны.

### Першыя савецкія хрэсьбіны.

(Халамерская вол., Лепельскага пав.).

9-га сакавіка ў нашым клюбе адбываліся савецкія хрэсьбіны (акцябрыны) сына грам. вёскі Бядавіцы Яшкі Гарынок. Дзіцяці далі імя Леў у чэсьць правадыра Чырвонай арміі Троцкага. Кумамі выбралі Зіноўева і Крупскую. Народу было шмат. Шмат сяброў вітала першых у воласьці піянэраў новага быту. Іграў струнны аркестр музыкі. Ячэйка КСМ прыняла над Львом шэфства і залічыла яго ў камсамол. Мацеры паднесен падарунак—10 аршын паркалю.

Гэтыя першыя хрэсьбіны ў нашай воласьці многім вельмі спадабаліся. У гэты дзень мы пралажылі першую сьцежку да новага быту.

**Зьм. Жыткевіч.**

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

*Konstanty Srokowski. Sprawa narodowościowa na Kresach Wschodnich.*

У цэлай масе польскіх брашур і „статыстычных" дасьледаў аб беларусах, што выдаваліся *пасьля* вайны, мы дагэтуль бачылі адно супольнае для іх усіх імкненьне: прадставіць беларусаў, як неякую лічбавую дробязь, з якой і лічыцца няма патрэбы, а затое лічбу „польскага" насяленьня на „Крэсах" узьвялічыць чуць ня ў дзесяцера, і гэтак перад усенькім сьветам прадставіць Заходнюю Беларусь, як этнаграфічна польскую зямлю—з выразнай перавагай тут палякоў.

Гэта нічога, што аўтары гэткіх „статыстык" *перад* вайной пісалі і друкавалі нешта прост адваротнае: людзі, прыдбаўшыя сваей даўнейшай працай імя паважных навуковых дзеячоў (прыкладам, граф. Ромэр і другія), не пасароміліся цяпер — у імя палітычных камбінацыяў—надужыць гэнае сваё добрае імя дзеля абаламучаньня заграніцы і свайго ўласнага грамадзянства.

У гэтай атмасфэры агульнага баламуцтва асабліва ярка выдзяляецца праца грам. К. Сроковскага, вядомага кракаўскага публіцыста, які толькі-што выпусьціў у сьвет сваю расправу пад загалоўкам: „Sprawa narodowościowa na Kresach Wschodnich". (Kraków, 1924). Трэба перш за ўсё адзначыць, што праца гэтая мае характар *афіцыяльнага дакуманту*: яна прадстаўляе часьць дакладу грам. Сроковскага, апрацаванага ім па даручэньню б. прэм'ера Сікорскага. І затым абраз, які паважаны аўтар намаляваў у гэтай працы сваей, набірае асаблівае вагі.

Грам. Сроковскі ў сакавіку і красавіку 1923 году аб'ехаў беларускія і ўкраінскія ваяводзтвы і, апіраючыся як на ўрадовых даных, так і на асабістых гутарках з прядстаўнікамі беларускага, украінскага і польскага грамадзянства, апісаў фактычнае палажэньне беларусаў і ўкраінцаў пад уладай Польшчы. Палажэньне гэтае, згодна з апісаньнем грам. Сроковскага, нічым ня розьніцца ад таго, што мы ў сваей часопісі апісваем з дня ды на дзень, — інакш кажучы, нязвычайна панурае. І не дарма аўтар даходзіць да вывадаў, каторыя могуць вельмі неспадабацца польскаму грамадзянству, бязстыдна баламучанаму рознымі лжэ-вучонымі, якія дзеля палітычных мэт так цынічна перакручываюць праўду...

„Гады чатыры таму назад,—піша грам. Сроковскі,—калі Польшча толькі йшчэ пачала выступаць на беларускіх землях, як палітычна самастойны чыньнік, існавалі бязспрэчныя падставы на тое, каб беларуская фэдэралістычная праграма абаперлася іменна аб Польшчу". Цяпер, дзякуючы польскай палітыцы ў Беларусі, аб гэтым і гаварыць нельга. Беларускі дзеяч, А. Цьвікевіч, у сваей кніжцы „Беларусь і Польшча" даводзіць нават, што мірнае сужыцьце Польшчы з Беларусяй наагул немагчыма: ў Польшчы пануючай клясай не перастала быць буйная мястовая і вясковая буржуазія, беларусы-ж — гэта народ малазямельных і безьзямельных сялян. „Калі нячысьленыя адзінкі спасярод беларусаў, як да прыкладу група Аляксюка, шукаюць яшчэ апоры ў Польшчы, дык пры ўжыванай цяпер на Крэсах палітычнай сыстэме яны ня маюць і ня могуць мець падставы дзеля рэальнае працы. Дык і вынікі выбараў выявілі поўнае бязсільле іх уплываў на народ.

І далей аўтар кажа:

„Над беларускімі думкамі, як здаецца, пануець прадстаўленая Ластоўскім *праграма літоўска-беларускае фэдэрацыі*. Аднак, трэба лічыцца з тым, што ў прыпадку перамены адносінаў у Расеі на тэй ці іншай дарозе праграма фэдэрацыі з Літвой уступіць месца праграме *аб'яднаньня з беларускай радавай рэспублікай*, што належыць да ССРР. Як вынікае з пададзеных ніжэй фактаў, гэты іменна кірунак эвалюцыі беларускіх палітычных праграмаў выдаецца найбольш праўдападобным".

Аўтар, адмаляваўшы пануры абраз палажэньня беларусаў пад Польшчай, апісывае далей тое, што робіцца ў Радавай Беларусі. Цікава адзначыць, што ў той мамэнт, калі грам. Сроковскі пісаў свой даклад генаралу Сікорскаму, там—на Ўсходзе — пытаньне аб патрэбе аб'яднаньня ўсходня-беларускіх зямель з менскім цэнтрам ня выйшла яшчэ на шырокую арэну, а знаходзілася толькі на абмеркаваньні партыйных і ўрадовых органаў.

Адзначыўшы дзьве магчымыя праграмы ў беларускай палітыцы: максымалістычную (незалежніцкую) і мінімалістычную, аўтар высказывае думку, што беларуская інтэлігенцыя магла-бы пагадзіцца з польскай „пры выпаўненьні мінімальнае беларускае праграмы, у якой зьмяшчаецца: агульная беларуская асьвета, непрашкаджаньне разьвіцьцю сярэдняе школы, некалькі катэдраў у віленскім унівэрсытэце, перамена праводжанае зямельнае рэформы ў кірунку дапушчэньня да ўчасьця ў ёй беларускага насяленьня, зьмягчэньне паліцэйскае сыстэмы, свабода прэсы і таварыстваў, урэшце, некаторыя гаспадарчыя мерапрыемствы, якія пашыралі-бы магчымасьць заробку для насяленьня".— Но, і—дадамо ад сябе—аўтаномія Заходняе Беларусі...

„Але з прычыны таго, што запраўднасьць вельмі далёка ад гэтае мінімальнае беларускае праграмы,—сярод агулу беларускага насяленьня пануе нездавольства, якое ператвараецца ў што-раз вастрэйшую няпрыхільнасьць да польскасьці і польскае дзяржаўнасьці. Афіцыяльныя беларускія дэкляраціы зьяўляюцца толькі слабым водгукам гэтага настраеньня. Шмат выразьней выяўляецца яно ў падземнай, канстрацыйнай агітацыі і ў яе дакумэнтах".

Так сьмела і рашуча раскрывае аўтар перад зачыма польскага грамадзянства запраўднае палажэньне беларусаў (а такжа і ўкраінцаў) пад упадай Польшчы. І, даўшы вельмі багатыя і красамоўныя матар'ялы аб уціску нашага народу, грам. Сроковскі канчае сваю працу падцьверджаньнем таго ўсім ужо вядомага, але адкіданага польскім урадам, факту, што *„славянскія меншасьці на Крэсах церпяць нацыянальны ўціск і вынішчаюцца гаспадарча"*.

На вялікі жаль, аўтар не падае свайго пагляду, якім способам трэба разьвязаць у Польшчы пытаньне беларускае і ўкраінскае. Але з усяго відаць, што ён стаіць на грунце выпаўненьня Польшчай мінімальнае беларускае праграмы, аб якой была гутарка вышэй.

З пагляду на цэнныя факты, згуртаваныя ў працы грам. Сроковскага, ня гледзячы на дробныя памылкі ў асьвятленьні палітычнага становішча беларусаў, з яго кніжкай варта пазнаёміцца кожнаму, кто хоча пазнаць праўду аб тым „раю", які беларусы і ўкраінцы знайшлі ў Польскай Рэспубліцы. А для палітычных дзеячоў яна зьяўляецца прост неабходнай, як крыніца бязспрэчных, аб'ектыўна ўстаноўленых фактаў з нашага паднявольнага жыцьця.

**А. Н—а.**

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.** Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.